Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя У. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XXV ■ АДДЗЕЛ МЭЛІОРАЦЫІ і КУЛЬТУРЫ БАЛОТ ■ Вып. 2.

Інж.-агр. А. І. ІВІЦКІ



# ФОРМУЛЫ ДЛЯ ЎДАСКАНАЛЕНЬНЯ ВУРОЧНЫХ НОРМ НА ЗЕМЛЯНЫЯ ПРАЦЫ

пад рэдакцыяй акадэміка А. Д. ДУБАХА



ТРУДЫ БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

А. И. Ивицкий

ФОРМУЛЫ ДЛЯ УТОЧНЕНИЯ УРОЧНЫХ НОРМ НА ЗЕМЛЯНЫЕ РАБОТЫ

ARBEITEN des WEISSRUSSISCHEN INSTITUT FÜR WISSENSCHAFTS FORSCHUNG W. I. LENIN

A. I. Iwitzky

FORMELN ZUR ERHÖHUNG der GENAUIGKEIT bei BERECHNUNG NORMIERTEN ERDARBEITLEISTUNGEN

МЕНСК—MINSK
1930

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XXV ▪ АДДЗЕЛ МЭЛІОРАЦЫІ і КУЛЬТУРЫ БАЛОТ ▪ Вып. 2.

Інж.-агр. А. І. ІВІЦКІ



# ФОРМУЛЫ ДЛЯ ЎДАСКАНАЛЕНЬНЯ ВУРОЧНЫХ НОРМ НА ЗЕМЛЯНЫЯ ПРАЦЫ

пад рэдакцыяй акадэміка А. Д. ДУБАХА



ТРУДЫ БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

А. И. Ивицкий

ФОРМУЛЫ ДЛЯ УТОЧНЕНИЯ УРОЧНЫХ НОРМ НА ЗЕМЛЯНЫЕ РАБОТЫ

ARBEITEN des WEISSRUSSISCHEN INSTITUT FÜR WISSENSCHAFTS FORSCHUNG W. I. LENIN

A. I. Iwitzky

FORMELN ZUR ERHÖHUNG der GENAUIGKEIT bei BERECHNUNG NORMIERTEN ERDARBEITLEISTUNGEN

МЕНСК – MINSK
1930

## УСТУП.

Працу па вытварэньню земляных вынятак або наспаў лапатай магчыма падзяліць на дзьве апэрацыі:

1) вырэзваньне кускоў глебы і

2) выкідваньне.

Норма працсілы на выкідваньне адзінкі аб'ёму глебы залежыць ад паземнай адлегласьці $l$ і старчаковай $h$ (гл. рыс. 1) і ад удзельнае вагі глебы. У сваю чаргу $l$ і $h$ залежаць ад разьмераў вынятсі або наспы.

У існуючых Вурочных Нормах на земляныя працы да гэтага часу ня ўлічаны дакладна ўплыў разьмераў вынятсі або наспы на норму працсілы для другой апэрацыі.

У дадзенай працы я спрабую разьвязаць гэта матэматычна.

На некаторыя, паўстаўшыя пры выконваньні працы, пытаньні мне ласкава даваў адказ акадэмік Аляксандр Давыдавіч Дубах.

Лічу за вялікую прыемнасьць магчымасьць выразіць яму тут шчырую падзяку.

*Аўтар.*

## 1. Адкідваньне глебы на паземную і старчаковую адлегласьці.

Найбольшая адлегласьць адкідваньня глебы грабарам толькі па паземным напрамку прынята ў „Сводзе Норм“ [1]) у 3 мт., альбо толькі па старчаковым напрамку (уверх 1,5 мт.).

Калі адкідваньне глебы вытвараецца аднадасова на паземную адлегласьць $l$ і старчаковую $h$, то даецца наступная табліча для $l$ ў залежнасьці ад $h$ (гл. „Свод Норм“ стар. 51).

Табліца № 6.

| $l$ | $h$ | $l$ | $h$ | $l$ | $h$ |
|---|---|---|---|---|---|
| 0,00 | 1,50 | 1,50 | 1,25 | 2,50 | 0,80 |
| 0,50 | 1,45 | 2,00 | 1,10 | 2,75 | 0,60 |
| 1,00 | 1,40 | 2,25 | 1,00 | 3,00 | 0,00 |

Калі камбінацыя $l$ і $h$ дакладна такая, як у табліцы № 6, то папраўчны каэфіцыэнт да нормы працсілы будзе адзінка. Які-ж папраўчны каэфіцыэнт да нормы працсілы ўзяць, калі стасунак $l$ і $h$ будзе інакшы, чым у табліцы № 6, напрыклад, $l = 2$ мт. $h = 1,45$ мт.?

Адказу ў „Сводзе Норм“ няма.

Далей, на стар. 83 „Свода Норм“ чытаем: „При откидывании только по одному горизонтальному направлению—1 мт. или только по вертикальному направлению на (высоту)—0,5 мт., вводить коэффициент 0,7. При откидывании только по горизонтальному направлению—2 м. или только по вертикальному направлению (на высоту)—1 мт. вводить коэффициент 0,8. В случае копания с откидкой по одному горизонтальному направлению 4 мт., или по одному вертикальному направлению (на высоту)—2 мт., вводить коэффи-

[1]) Свод Производственных Строительных Норм. Изд. Госплана СССР. 1928 г.

циент 1,2—1,25 для групп грунта 1—5 и коэффициент 1,25—1,30 для грунтов групп 6—10".

Які-ж паправачны каэфіцыэнт узяць, калі адкідваньне вытвараецца на адлегласьці, якія не паказаны на стар. 83 „Свода Норм", напрыклад, на паземную адлегласьць 0,5 м., 4,49 м., альбо толькі на старчаковую адлегласьць (у вышыню), напрыклад, 0,30 мт.; 1,30 мт.; 2,50 мт.? Адкажам на гэткія запытаньні тэарэтычна.

Мэханічная работа на выкідваньне глебы з канаў па формуле акадэміка А. Д. Дубаха [1]) тэарэтычна выяўляецца так:

$$A = \frac{F \cdot \gamma}{2} \cdot \frac{l^2}{l sn 2\alpha - 2h \cdot cs^2\alpha} \quad \ldots \ldots (1)$$

У гэтай формуле $F$—плошча $BCDA$ (гл. рыс. № 1); $\gamma$—вага адзінкі аб'ёму глебы; $Z + Z_1 = h$ = адлегласьці цэнтра цяжару




Рыс. 1.

плошчы $KCDE$ ад лініі $KC$ + адлегласьць цэнтра цяжару плошчы $MNPT$ ад лініі $MT$. Для ўсякага трапэцыяльнага сячэньня $h$ вылічаецца па формуле, якая выведзена ў мэханіцы:

$$h = \frac{H(a + 2b)}{3(a + b)} + \frac{H_1(a_1 + 2b_1)}{3(a_1 + 2b_1)} \quad \ldots \ldots (2)$$

дзе $H$—глыбіня канавы; $a$—шырыня канавы па верху; $b$—шырыня канавы па дну; $H_1$—вышыня кавальера; $a_1$—шырыня кавальера па нізу; $b_1$—шырыня кавальера па верху.

[1]) А. Д. Дубах. „Пути к уточнению проектирования осушительных работ". Минск, 1927 г.

Для трапэцыяльнага сячэньня, у якога адзін з роўналежных бакоў трапэцыі простастаўны раўналежным, альбо ў якога абодва нераўналежныя бакі маюць аднолькавы кут нахілу, г. зн., для выпадку, які паказаны на рысунку 2, для вялічыні $l$ даём наступную формулу:

$$l = \frac{a + 2mZ + 2a_1}{4} + S_1 \quad \ldots\ldots\ldots (3)$$

дзе $m$—заснаваньне пакатаў, $S_1$—шырыня бермы, $Z$—адлегласьць цэнтра цяжару плошчы $ABMN$ ад лініі $AB$ і вылічаецца па формуле:

$$Z = \frac{H}{3} \cdot \frac{a + 2b}{a + b} \quad \ldots\ldots\ldots (3a)$$

Значэньне ўсіх апошніх літараў формулы (3) і (4) растлумачана вышэй.

Кут $\alpha$—кут, пад якім выкідваецца глеба. Калі дапусьціць, што грабар кідае глебу пад такім кутом $\alpha$, пры якім патрэбна мінімум работы на перакідваньне, то, узяўшы выводную ад выражэньня (I) па $\alpha$, і, прыраўняўшы яе нулю, для вызначэньня $\alpha$ атрымаем раўнаньне:

$$-tg2\alpha = \frac{l}{h} \quad \ldots\ldots\ldots (k)$$

Формула (3-я) выводзіцца наступным чынам:




Рыс. 2.

Няхай $O$—цэнтр цяжару плошчы $ABNM$ і няхай $An = nB$; $Mp = pN$; $rk // AB$.

З рысунку маем:

$$l = tB + BC + CD = S + S_1 + \frac{a_1}{2} \text{ і } An = nB = \frac{a}{4},$$

дзе $a$ — шырыня па верху трапэцыі $BNM_1E$;

$$S = tf + fB = od + Zm \quad \ldots\ldots\ldots\ldots (a)$$

$$rd = Af = AB - fB = \frac{a}{2} - Zm \quad \ldots\ldots\ldots (b)$$

дзе $m$ — заснаваньне пакатаў. Далей, $od = \frac{rd}{2}$ альбо, прымаючы пад увагу выражэньне ($b$):

$$od = \frac{rd}{2} = \frac{a}{4} - \frac{Zm}{2} \quad \ldots\ldots\ldots\ldots (c)$$

Падстаўляючы значэньне $od$ з ($c$) у ($a$), атрымаем:

$$S = \frac{a}{4} - \frac{Zm}{2} + Zm.$$

Альбо:

$$S = \frac{a + 2Zm}{4} \quad \ldots\ldots\ldots\ldots (4) \text{ і}$$

$$l = \frac{a + 2Zm + 2a_1}{4} + S_1 \ldots\ldots\ldots (3).$$

Калі адзін з нераўналежных бакоў трапэцыі не простастаўны роўналежным бакам альбо, калі абодва нераўналежныя бакі маюць розныя куты нахілу, то велічыня $S$ выражаецца інакш і формула для $S$ выводзіцца наступным чынам:




Рыс. 3.

няхай пункт $O$ — цэнтр цяжару трапэцыі $ABDC$; $AB$ — шырыня па верху $= a$; $CD$ — шырыня па дну $= b$; $OK = Z$ = адлегласьці цэнтра цяжару ад $AB$. Разьдзелім $CD$ і $AB$ папалам кропкамі $F$ і $E$. Злучым пункт $E$ з $F$. Лінія $EF$ абавязкова пройдзе праз цэнтр цяжару, праз пункт $O$. Правядзём

$$DT \| EF \text{ і } ou \| AB.$$

З рысунку маем:

$$S = KB = ot + tu + rB \quad . \quad . \quad . \quad . \quad (a).$$

Але

$$ot = ED = \frac{b}{2} \quad . \quad . \quad . \quad . \quad . \quad . \quad . \quad (b).$$

Няхай заснаваньне пакатаў лініі $DB$ будзе $m$. Тады:

$$\frac{rB}{ru} = \frac{rB}{Z} = m.$$

Адкуль:

$$rB = Zm \quad . \quad . \quad . \quad . \quad . \quad . \quad . \quad (c).$$

Для вызначэньня адрэзка $tu$ маем з падобнасьці трыкутнікаў $DTB$ і $Dtu$:

$$\frac{TB}{tu} = \frac{H}{H - Z}$$

Але $TB = FB - FT$ альбо $TB = \frac{a-b}{2}$.

Значыцца,

$$\frac{\frac{a-b}{2}}{tu} = \frac{H}{H - Z}$$

Адкуль:

$$tu = \frac{(a-b)\ (H-Z)}{2H} \quad . \quad . \quad . \quad . \quad . \quad . \quad (d).$$

Падставіўшы значэньні $ot$, $tu$ і $rB$ у (a) з ($b$), ($d$) і ($c$), атрымаем:

$$S = \frac{b}{2} + Zm + \frac{(a-b)\,(H-Z)}{2H}$$

альбо:

$$S = \frac{a}{2} + Zm - \frac{(a-b)\ Z}{2H} \quad . \quad . \quad . \quad . \quad . \quad (5).$$

Формула (1) зьмяшчае трыганамэтрычныя велічыні, што робіць вельмі марудным вылічэньне па ёй і галоўнае зьмяншае яе гібкасьць. Пераробім яе.

Вядома, што $snx = \frac{tgx}{\pm\sqrt{1 + tg^2x}}$; $cs\,\frac{x}{2} = \pm\sqrt{\frac{1 + csx}{2}}$; $csx = \frac{1}{\pm\sqrt{1 + tg^2x}}$.

Няхай $x=2\alpha$; тады, падставіўшы ў вышэйнапісаныя роўнасьці $2\alpha$ замест $x$, атрымаем:

$$sn2\alpha=\frac{tg2\alpha}{\pm\sqrt{1+tg^2 2\alpha}} \quad \ldots\ldots\ldots (a).$$

$$cs\alpha=\pm\sqrt{\frac{1+cs2\alpha}{2}} \quad \ldots\ldots\ldots (b).$$

$$cs2\alpha=\frac{1}{\pm\sqrt{1+tg^2 2\alpha}} \quad \ldots\ldots\ldots (c).$$

З $(b)$ маем:

$$cs^2\alpha=\frac{1+cs2\alpha}{2}=\frac{1}{2}+\frac{cs2\alpha}{2}.$$

Падставім сюды значэньне $cs2\alpha$ з $(c)$.

Тады:

$$cs^2\alpha=\frac{1}{2}+\frac{1}{2}\left(\frac{1}{\pm\sqrt{1+tg^2 2\alpha}}\right)=\frac{1}{2}\pm\frac{1}{2\sqrt{1+tg^2 2\alpha}}.$$

Адкуль:

$$cs^2\alpha=\frac{\sqrt{1+tg^2 2\alpha}\pm 1}{2\sqrt{1+tg^2 2\alpha}} \quad \ldots\ldots\ldots (d).$$

З раўнаньня $(k)$ (гл. стар. 7) заключаем, што знакі ў лічніку і назоўніку выражэньня $(a)$ і ў назоўніку выражэньня $(c)$ неабходна ўзяць мінусы. Тады выражэньні $(a)$ і $(d)$ прымуць від для нашага прыватнага выпадку:

$$sn2\alpha=\frac{tg2\alpha}{\sqrt{1+tg^2 2\alpha}} \quad \ldots\ldots\ldots (A).$$

$$cs^2\alpha=\frac{\sqrt{1+tg^2 2\alpha}-1}{2\sqrt{1+tg^2 2\alpha}} \quad \ldots\ldots\ldots (B).$$

Падстаўляем значэньне $-tg^2\alpha$ з $(k)$ у $(A)$ і $(B)$.

$$sn2\alpha=\frac{\frac{l}{h}}{\sqrt{1+\frac{l^2}{h^2}}}=\frac{l}{\sqrt{h^2+l^2}}$$

$$cs^2\alpha=\frac{\sqrt{1+\frac{l^2}{h^2}}-1}{2\sqrt{1+\frac{l^2}{h^2}}}=\frac{\sqrt{h^2+l^2}-h}{2\sqrt{h^2+l^2}}.$$

Цяпер падстаўляем значэньні $sn2\alpha$ і $cs^2\alpha$ з атрыманых выражэньняў у формулу (1).

$$A = \frac{F\gamma}{2} \cdot \frac{l^2}{l\dfrac{l}{\sqrt{l^2+h^2}} - \dfrac{2h(\sqrt{l^2+h^2}-h)}{2\sqrt{l^2+h^2}}}$$

альбо:

$$A = \frac{F\gamma}{2} \cdot \frac{l^2}{\dfrac{l^2 - h(\sqrt{l^2+h^2}-h)}{\sqrt{l^2+h^2}}}$$

Адкуль:

$$A = \frac{F\gamma}{2} \cdot \frac{l^2}{l^2+h^2-h\sqrt{l^2+h^2}} \quad \ldots \ldots (C).$$

Такім чынам, формула (1) перароблена ў формулу ($C$), у якой адсутнічаюць трыганамэтрычныя велічыні.

Вядзём ператварэньне далей. Дзелім лічнік і назоўнік правай часткі выражэньня ($C$) на $\sqrt{l^2+h^2}$.

$$A = F\gamma \frac{l^2}{2\sqrt{l^2+h^2}-2h}.$$

Адкуль:

$$\frac{A}{l^2} = F\gamma\left(\frac{1}{2\sqrt{l^2+h^2}-2h}\right)$$

альбо:

$$\frac{l^2}{A} = \frac{2\sqrt{l^2+h^2}-2h}{F\gamma}.$$

альбо:

$$\frac{l^2}{A} + \frac{2h}{F\gamma} = \frac{2\sqrt{l^2+h^2}}{F\gamma}.$$

Пасьля ўзьвядзеньня абедзьвюх частак роўнасьці ў квадрат, прывядзеньня падобных членаў і скарачэньня на $l^2$ атрымоўваем:

$$\frac{l^2}{A^2} + \frac{4h}{AF\gamma} = \frac{4}{F^2\gamma^2}.$$

Разьвязваючы апошняе раўнаньне адносна $A$, канчаткова атрымоўваем простую формулу:

$$\boxed{A = F\gamma\left(\frac{\sqrt{l^2+h^2}+h}{2}\right)} \quad \ldots \ldots \ldots (6).$$

З рысунку (1) бачым, што $\sqrt{l^2+h^2}$ — замыкаючая крывой $ORO'$, а $h$—праэкцыя гэтай замыкаючай на вось $y$.

Такім чынам, работа на перамяшчэньне цела раўна здабытку вагі цела на паўсумы замыкаючай крывой і праэкцыі замыкаючай на вось $y$.

З формулы (6) заключаем, што мэханічная работа на выкідваньне глебы вагой $F\gamma$ пры розных стасунках $l$ і $h$ будзе толькі тады аднолькавай, калі $\sqrt{l^2+h^2}+h=\text{constans}$.

Прымаем, што лік чалавека-гадзін, патрэбных на выкідваньне глебы, прапарцыянален мэханічнай рабоце на выкідваньне, вылічанай па формуле (6).

Па „Своду Норм“ прынята найбольшая паземная адлегласьць перакідваньня глебы грабарам у 3 *мт*, а папраўчны каэфіцыэнт да нормы працсілы пры гэтай адлегласьці лічыцца адзінка.

Мэханічная праца на перакідваньне глебы вагой $F\gamma$ на паземную адлегласьць 3 *мт* па формуле (6) пры $h=o$ будзе:

$$A_1=F\gamma\cdot\frac{3}{2}.$$

Калі для $A_1'=F\gamma\left(\frac{\sqrt{l^2+h^2}+h}{2}\right)$ прымем стасунак $l$ і $h$ такім, каб папраўчны каэфіцыэнт да $A_1'$ быў роўным адзінцы, то $A_1=A_1'$ і $F\gamma\cdot\frac{3}{2}=F\gamma\left(\frac{\sqrt{l^2+h^2}+h}{2}\right)$.

Адкуль:

$$\sqrt{l^2+h^2}+h=3 \quad . \ . \ . \ . \ . \ . \ . \ . \ . \ (7).$$

Калі маем стасунак $l_i$ і $h_i$ такім, што $\sqrt{l^2+h^2}+h\neq 3$, то да нормы працсілы неабходна ўвадзіць папраўчны каэфіцыэнт

$$\beta=\frac{\sqrt{l_i^2+h_i^2}+h_i}{\sqrt{l^2+h^2}+h},$$

альбо, прымаючы пад увагу формулу (7):

$$\boxed{\beta=\frac{\sqrt{l_i^2+h_i^2}+h_i}{3}} \quad . \ . \ . \ . \ . \ . \ . \ (8),$$

у формуле (8) лічым:

$$\sqrt{l_i^2+h_i^2}+h_i\leq 5{,}3\ мт. \ . \ . \ . \ . \ . \ . \ . \ (9)$$

Пры чым лічба 5,3 *мт* намі атрымана, як сярэдняя, з вялікага ліку вопытаў і характарызуе такое значэньне $l$ і $h$, вылічанае па формуле $\sqrt{l^2+h^2}+h$, пры якім магчыма яшчэ выкідваньне глебы лапатай ў адзін прыём.

Вопыты над вызначэньнем лічбы 5,3 *мт* вытвараліся намі на мэліарацыйных асушальных працах у 3-х акругах БССР і заключаліся ў замерваньні паземнай і старчаковай адлегласьці пры выкідваньні глебы грабарам лапатай у натуральных умовах.

У ніжэйпрыведзенай табліцы паказаны замераная паземная адлегласьць адкідваньня глебы лапатай $l$, старчаковая $h$, вага аднэй выкідкі і прыватныя значэньні $\sqrt{l^2+h^2}+h$ [1])

| № № па чарзе | $l$ | $h$ | $\sqrt{l^2+h^2}+h$ | Лік назіраньняў | Вага выкідкі у kg | Глеба |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У мэтрах. | | | | | |
| 1 | 3,1 | 1,1 | 4,39 | 1 | 9.3 | Пясок сярэдняй буйнасьці. |
| 2 | 3.6 | 1,1 | 4,87 | 1 | 7.8 | |
| 3 | 3,4 | 1,2 | 4,81 | 1 | 8.1 | |
| 4 | 2.7 | 1,2 | 4.16 | 1 | 8,3 | |
| 5 | 2.6 | 1,4 | 4,35 | 1 | 8.6 | Торф. |
| 6 | 4.7 | 1.5 | 6,43 | 1 | 6,6 | |
| 7 | 3,0 | 1,4 | 4,77 | 1 | 7,0 | |
| 8 | 4.2 | 1,8 | 6,37 | 1 | 5.73 | Плывун. |
| 9 | 4,1 | 2,0 | 6,56 | 1 | 6,01 | |
| 10 | 4,4 | 2,0 | 6,83 | 1 | 6,00 | |
| 11 | 3,75 | 1.25 | 5,20 | 1 | 7,10 | Пясок сярэдняй буйнасьці. |
| 12 | 3,70 | 1,30 | 5,22 | 1 | 7,18 | |
| 13 | 3,70 | 1,20 | 5.09 | 1 | 7.70 | |
| 14 | 4.40 | 1.1 | 5,63 | 1 | 5,89 | |
| 15 | 4.3 | 1,2 | 4,66 | 1 | 5.40 | |
| 16 | 4,1 | 1,35 | 5.67 | 1 | 6,26 | |
| 17 | 3.0 | 1,30 | 4.57 | 1 | 8,40 | |
| 18 | 3.3 | 1,30 | 4,85 | 1 | 7,14 | |
| 19 | 2,8 | 1.40 | 4,53 | 1 | 7,62 | |
| 20 | 3.0 | 1,17 | 4,39 | 1 | 7.60 | |
| 21 | 4.1 | 1,45 | 5.80 | 1 | 5,25 | |
| 22 | 4,3 | 1.58 | 6.16 | 1 | 6.84 | |
| 23 | 3,8 | 1,66 | 5,81 | 1 | 5,28 | |
| 24 | 3,7 | 1,84 | 5,97 | 1 | 5,04 | |
| 25 | 4,65 | 1,625 | 6,55 | 1 | 5,58 | |

[1]) У табліцы прыведзена толькі частка матар'ялу.

| №№ па чарзе | l | h | $\sqrt{l^2+h^2}+h$ | Лік назіраньняў | Вага выкідкі ў kg | Глеба |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У мэтрах | | | | | |
| 26 | 3,10 | 1,73 | 5,28 | 1 | 9,13 | Пясок сярэдняй буйнасьці |
| 27 | 2,8 | 1,68 | 4,94 | 1 | 8,49 | |
| 28 | 4,6 | 1,84 | 6,79 | 1 | 9,30 | |
| 29 | 3,65 | 1,85 | 5.94 | 1 | 7,54 | |
| 30 | 4.0 | 1,79 | 6,17 | 1 | 6,25 | |
| 31 | 3,7 | 1,90 | 6.06 | 1 | 6,63 | |
| 32 | 4,7 | 1,76 | 6,78 | 1 | 7.04 | |
| 33 | 4,7 | 1,76 | 6,78 | 1 | 7.40 | |
| 34 | 4.1 | 1.83 | 6,32 | 1 | 7,90 | |
| 35 | 4,4 | 1,83 | 6.60 | 1 | 6.78 | |
| 36 | 4,9 | 2,08 | 7,40 | 1 | 6,44 | |
| 37 | 4,1 | 1,83 | 6.32 | 1 | 7,12 | |
| 38 | 4,2 | 1,87 | 6.47 | 1 | 7,06 | |
| 39 | 3,9 | 1,98 | 6,35 | 1 | 11,32 | |
| 40 | 4,8 | 2,13 | 7,38 | 1 | 7.48 | |
| 41 | 3,6 | 1,47 | 5,36 | 1 | 7,75 | |
| 42 | 2.9 | 1,41 | 3,63 | 1 | 7,38 | |
| 43 | 3,7 | 1,90 | 6,06 | 1 | 6.07 | |
| 44 | 3,7 | 1,91 | 6,07 | 1 | 5.56 | |
| 45 | 3,3 | 1,83 | 5,60 | 1 | 5,34 | |
| 46 | 3,2 | 1,93 | 5,68 | 1 | 5,61 | |
| 47 | 4.6 | 2,19 | 7,29 | 1 | 5.43 | |
| 48 | 4,1 | 1,94 | 6,48 | 1 | 6.25 | |
| 49 | 3,8 | 2,0 | 6,29 | 1 | 6,16 | |
| 50 | 3,2 | 1,68 | 5,29 | 1 | 6,00 | |
| 51 | 4,63 | 1,00 | 5,74 | 3 | 5,56 | Торф. |
| 52 | 4,00 | 1,62 | 5,94 | 2 | 5,45 | |
| 53 | 4,80 | 1,03 | 5,94 | 3 | 5,1 | |
| 54 | 4,25 | 1,41 | 5,88 | 2 | 6.05 | |
| 55 | 2,84 | 1,50 | 4,76 | 5 | 4,93 | Пясок |
| 56 | 2,93 | 1,80 | 5,24 | 6 | 4.91 | |
| 57 | 3,60 | 1,90 | 5,97 | 1 | 5.28 | |
| 58 | 3,15 | 0,80 | 4,06 | 8 | 8,14 | |
| 59 | 3,06 | 1,00 | 4,22 | 4 | 8,64 | |
| 60 | 3.00 | 1,20 | 4,43 | 1 | 7.94 | |

| № № па чарзе | $l$ | $h$ | $\sqrt{l^2+h^2}+h$ | Лік назіраньняў | Вага выкідкі ў $kg$ | Глеба |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У мэтрах | | | | | |
| 61 | 3.85 | 1,10 | 5,10 | 1 | 6,06 | Пясок |
| 62 | 4.10 | 1.00 | 5.22 | 1 | 7,62 | |
| 63 | 3.00 | 1,30 | 4,57 | 1 | 7,36 | |
| 64 | 3.60 | 1,20 | 4,99 | 1 | 6,64 | |
| 65 | 3,45 | 1.20 | 4,85 | 2 | 6,39 | |
| 66 | 3,20 | 1,47 | 4,99 | 9 | 6,89 | |
| 67 | 3,19 | 1,65 | 5,24 | 7 | 6,98 | |
| 68 | 2,96 | 1,20 | 4,39 | 3 | 7,70 | |
| 69 | 3,15 | 1,10 | 4,44 | 2 | 11,01 | |
| 70 | 3,30 | 1,25 | 4,78 | 1 | 6,56 | |
| 71 | 3,15 | 1.35 | 4,78 | 2 | 8,72 | |
| 72 | 3.30 | 1,52 | 5,15 | 4 | 7,23 | |
| 73 | 3,49 | 1,00 | 4,63 | 9 | 8,20 | |
| 74 | 4,13 | 1,10 | 5,37 | 3 | 6,66 | |
| 75 | 4,30 | 1.40 | 5,92 | 2 | 7.54 | |
| 76 | 3,50 | 1,20 | 4,90 | 3 | 7,15 | Плывун. |
| 77 | 3.66 | 1.05 | 4,86 | 3 | 7,70 | |
| 78 | 4,88 | 0.80 | 5,75 | 12 | 6,37 | Торф. |
| 79 | 4,90 | 0,80 | 5,77 | 4 | 9,55 | Глей. |
| 80 | 5,42 | 0,80 | 6,28 | 4 | 5,90 | |
| 81 | 5,58 | 0.40 | 5,59 | 8 | 6,67 | Глей. |
| 82 | 5,33 | 0,80 | 6,18 | 6 | 7,36 | |
| 83 | 4,73 | 1,50 | 6,46 | 10 | 6,98 | |
| 84 | 2,37 | 0,70 | 3,17 | 4 | 4,50 | |
| 85 | 3,25 | 1,30 | 4,80 | 4 | 4,35 | |
| 86 | 3.20 | 0,30 | 3,51 | 2 | 5,70 | Торф. |
| 87 | 3,60 | 0,50 | 4,14 | 2 | 4,42 | |
| 88 | 4,25 | 0,70 | 5,01 | 4 | 3,34 | |
| 89 | 5,06 | 0,20 | 5,26 | 6 | 5,80 | |
| 90 | 5,45 | 0.40 | 5,86 | 2 | 6,25 | |
| 91 | 5,07 | 0,50 | 5,57 | 4 | 6,10 | Глей. |
| 92 | 4,30 | 0,50 | 4,83 | 4 | 4,30 | |
| 93 | 5,20 | 0,50 | 5,72 | 2 | 6,15 | |
| 94 | 5,00 | 1,00 | 6,10 | 4 | 7,66 | |
| 95 | 5,78 | 0,20 | 5,98 | 5 | 9,08 | Торф |

| № № па чарзе | $l$ | $h$ | $\sqrt{l^2+h^2}+h$ | Лік назіраньняў | Вага выкідкі ў $kg$ | Глеба |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У мэтрах | | | | | |
| 96 | 5,00 | 0,50 | 5,52 | 3 | 7.87 | Торф |
| 97 | 5,30 | 0,20 | 5,50 | 3 | 7,96 | Торф |
| 98 | 4.66 | 0,50 | 5.19 | 3 | 5.65 | Торф |
| 99 | 5,75 | 0,20 | 5.95 | 2 | 8,60 | Торф |
| 100 | 5,55 | 0.50 | 6,07 | 4 | 7,63 | Торф |
| 101 | 5,85 | 1,00 | 6,93 | 2 | 6.45 | Торф |
| 102 | 4.95 | 0,15 | 5.10 | 2 | 7,20 | Торф |
| 103 | 4,60 | 0.50 | 5,12 | 4 | 5.78 | Торф |
| 104 | 5,75 | 0,80 | 6.60 | 2 | 3.30 | Торф |
| 105 | 4,60 | 1,20 | 5.95 | 2 | 4,57 | Торф |
| 106 | 4,00 | 0,40 | 4,42 | 2 | 8,48 | Торф |
| 107 | 3,40 | 0,20 | 3.61 | 1 | 6,84 | Торф |
| 108 | 6,26 | 0.22 | 6,48 | 3 | 7,65 | Глей |
| 109 | 7,30 | 0,45 | 7,76 | 2 | 5,96 | Глей |
| 110 | 5,40 | 0,65 | 6.09 | 3 | 4,66 | Глей |

Калі $\sqrt{l_i^2+h_i^2}+h_i > 5{,}3$ *мт*, то ўстанаўліваецца адна альбо некалькі перакідак і $\beta$ вылічаецца па формуле:

$$\beta = \beta_1 + \beta_2 + \ldots + \beta_n \quad \ldots\ldots (10),$$

дзе $\beta_i$ — паправачны каэфіцыэнт да перакідкі $i$.

Прыклад:

Выкідваньне глебы вытвараецца адначасова на вышыню $h = 1{,}45$ *мт* і паземную адлегласьць $l = 2$ *мт*. Вызначыць паправачны каэфіцыэнт $\beta$.

Пасьля падстаноўкі $l = 2$ *мт* і $h = 1{,}45$ *мт*. у няроўнасьць (9) знаходзім, што яна здавальняецца. Значыцца, выкідку магчыма вытварыць у адзін прыём і $\beta$ вылічаем па формуле:

$$\beta = \frac{\sqrt{l^2+h^2}+h}{3} = \frac{\sqrt{2^2+1{,}45^2}+1{,}45}{3} = 1{,}306.$$

У формулу (2) уваходзіць велічыня $H_1$ — вышыня кавальера. З рысункаў (4) і (5) відаць, што для аднэй і той-жа канавы

пры аднэй і той-жа плошчы сячэньня кавальера і $\gamma = 1000\ kg$. мэханічная праца на выкідваньне глебы пры прарыцьці




Рыс. 4.




Рыс. 5.

аднаго пагоннага *мт* канавы ў першым выпадку будзе:

$$A_1 = F \cdot \gamma \cdot 1 \cdot \frac{\sqrt{l_1^2 + h_1^2} + h_1}{2} = 16 \cdot 1000 \cdot \frac{\sqrt{3^2 + 4^2} + 4}{2} =$$

$$= 72000\ kg|mt,$$ а ў другім выпадку:

$$A_2 = F \cdot \gamma \cdot 1 \cdot \frac{\sqrt{l_2^2 + h_2^2} + h_2}{2} = 16 \cdot 1000 \cdot \frac{\sqrt{4^2 + 3^2} + 3}{2}) =$$

$$= 64000\ kg|mt.$$

Такім чынам, мы бачым, што для прарыцьця аднэй і той-жа канавы з аднолькавай плошчай сячэньня кавальеру мэханічная праца на выкідваньне глебы будзе розная ў залежнасьці ад вышыні кавальера.

Знойдзем мэханічна найвыгаднейшую вышыню кавальера, г. зн., такую вышыню, пры якой мэханічная работа на перакідваньне глебы з канавы дадзеных разьмераў у кавальер будзе мінімум [1]).




Рыс. 6.

Работа на выкідваньне глебы па формуле (6) выражаецца так:

$$A = F\gamma\left(\frac{\sqrt{l^2 + h^2} + h}{2}\right).$$ Альбо (гл. рыс. 6)

$$A = F\gamma\left[\frac{\sqrt{(S + S_1 + S_2)^2 + (Z + Z_1)^2} + Z + Z_1}{2}\right].$$

Прыймаем $S$, $S_1$ і $Z$ канстантнымі. Знойдзем мінімум работы на выкідваньне $ABCD$ у кавальер пры зьмяненьні $S_2$ і $Z_1$.

[1]) Вывад формулы мэханічна найвыгаднейшага сячэньня канавы пры найвыгаднейшай вышыне кавальеру я тут не прыводжу за адхіленьнем ад тэмы.

Па формуле (3*a*), $Z_1 = \frac{H_1}{3}\left(\frac{a_1 + 2b_1}{a_1 + b_1}\right)$, але $a_1 = b_1 + 2mH_1$

$$\text{значыцца,}\quad Z_1 = \frac{3b_1H_1 + 2mH_1^2}{6b_1 + 6mH_1}.$$

З рысунку: $S_2 = \frac{b_1}{2} + mH_1$. Вядома, што $F_1 = b_1H_1 + mH_1^2$.

$$\text{Адгэтуль: } b_1 = \frac{F_1 - mH_1^2}{H_1}.$$

Падстаўляючы значэньне $b_1$ у выражэньні для $Z_1$ і $S_2$,

атрымаем $Z_1 = \frac{3F_1H_1 - mH_1^3}{6F}$ . . . . . . . . . . . . . (*a*)

$$S_2 = \frac{F_1 + mH_1^2}{2H_1} \quad \dots\dots\dots\dots \quad (b)$$

Абазначым $S + S_1 = P$ . . . . . . . . . . . . . . . (*P*)

Падставім у формулу работы значэньні $Z_1$, $S_2$ і $S_1 + S_1$ з (*a*), (*b*) і (*P*). Атрымаем:

$$A = F\gamma\left[\frac{\sqrt{\left(P + \frac{F_1 + mH_1^2}{2H_1}\right)^2 + \left(Z + \frac{3F_1H_1 - mH_1^3}{6F_1}\right)^2}}{2} + \frac{Z + \frac{3F_1H_1 - mH_1^3}{6F_1}}{2}\right]$$

Дыфэрэнцуем апошняе выражэньне па $H_1$

$$\frac{dA}{dH_1} = F\gamma\left\{\frac{B\left[\frac{2mH_1 \cdot 2H_1 - (F_1 + mH_1^2) \cdot 2}{4H_1^2}\right] + C\left(\frac{3F_1 - 3mH_1^2}{6F_1}\right)}{\sqrt{B^2 + C^2}} + \frac{3F_1 - 3mH_1^2}{6F_1}\right\}$$

дзе з мэтай кароткасьці абазначана:

$$B = P + \frac{F_1 + mH_1^2}{2H_1}$$

$$C = Z + \frac{3F_1H_1 - mH_1^3}{6F}$$

З выражэньня выводнай атрымоўваем:

$$\frac{B}{4H_1^4} - \frac{B}{4F_1^2} - \frac{C}{2F_1H^2} = 0. \quad \text{Адкуль:}$$

$$BF_1^2 - BH_1^4 - 2CF_1H_1^2 = 0.$$

Падставіўшы сюды значэньні $B$ і $C$, і, зрабіўшы прывядзеньне падобных членаў, канчаткова атрымаем раўнаньне:

$$mH_1^6 + 6PH_1^5 + 9F_1H_1^4 + 12F_1ZH_1^3 - 3F_1^2mH_1^2 - 6PF_1^2H_1 - 3F_1^3 = 0 \quad (11)$$

П р ы к л а д. Выкідваньне глебы вытвараецца з канавы разьмерамі: глыбіня канавы $h = 1{,}25$ мт., шырыня па дну $b = 0{,}5$ мт., пакаты адзіночныя, шырыня бермы 1 мт. Знайсьці каэфіцыэнт $\beta$ пры мэханічна найвыгаднейшай вышыні кавальера.

Разьвязваньне:

1) Вызначаем плошчу папярочнага сячэньня канавы па формуле:

$$F = \frac{a+b}{2} \cdot H = 2{,}187 \; мт^2.$$

2) Вызначаем плошчу папярочнага сячэньня кавальера па формуле:

$$F_1 = k \frac{F}{2}.$$

дзе $k$ — каэфіцыэнт першапачатковага разрыхленьня глебы. Пры $k = 1{,}25$. $F = 1{,}367 \; мт^2$.

3. Вызначаем $Z$ па формуле ($3a$):

$$Z = \frac{H}{3}\left(\frac{a+2b}{a+b}\right) = \frac{1{,}25}{3}\left(\frac{3+2\cdot 0{,}5}{3+0{,}5}\right) = 0{,}476 \; мт.$$

4) Вызначаем мэханічна найвыгаднейшую вышыню кавальера з раўнаньня (11). $H_1 = \backsim 1{,}02$ мт.

5) Вылічаем шырыню кавальера па вярху па формуле

$$b_1 = \frac{F_1 - mH_1^2}{H_1} = \frac{1{,}367 - 1{.}04}{1{,}02} = 0{,}11 \; мт.$$

6) Вылічаем шырыню кавальера па-нізу

$$a_1 = b_1 + 2mH_1 = 2{,}15 \; мт.$$

7) Вылічаем $h$ па формуле (2)

$$h = \frac{H}{3}\left(\frac{a+2b}{a+b}\right) + \frac{H_1}{3}\left(\frac{a_1+2b_1}{a_1+b_1}\right) = 0{,}8327 \; мт.$$

8) Вылічаем $l$ па формуле (3)

$$l = \frac{a + 2mZ + 2a_1}{4} + S_1 = 3{,}058 \text{ мт.}$$

9) Падстаўляем вылічаныя значэньні $h$ і $l$ у няроўнасьць (9). Пераконваемся, што яна здавальняецца.

10) Вылічаем паправачны каэфіцыэнт $\beta$ па формуле (8):

$$\beta = \frac{\sqrt{l^2 + h^2} + h}{3} = 1{,}334.$$

Для велічыні $k$ зьмяшчаем наступную таблічку[1]):

| № п/п. | Глеба | | $k$. |
|---|---|---|---|
| 1 | Плывучы мелкі пясок | | 1,05 |
| 2 | Пясок, граві | | 1,10 — 1,20 |
| 3 | Супясок, суглінак, мяккая гліна | | 1,20 — 1,25 |
| 4 | Мергель, расьлінная зямля, торф | | 1,25 — 1,30 |
| 5 | Цьвёрдыя, шчыльныя гліны, цьвёрды мергель | | 1,25 — 1,35 |
| 6 | Шчабеністыя і каменістыя глебы | мяккія | 1,30 — 1,40 |
| | | цьвёрдыя | 1,40 — 1,50 |

## Дапасаваньне каэфіцыэнта $\beta$.

Працу па капаньню магчыма падзяліць на дзьве апэрацыі:

1) Вырэзваньне кавалкаў глебы і

2) выкідваньне[2]).

Калі абазначым агульны час у чалавека-гадзінах на разрабатваньне аднаго куб. мт. глебы праз $T$, час на першую опэрацыю праз $t_1$, і час на другую праз $t_2$, то, відавочна, што

$$T = t_1 + t_2 \quad \ldots\ldots\ldots\ldots (12)$$

Каэфіцыэнт $\beta$ мы ўводзім толькі для $t_2$[3]).

[1]) Табліца ўзята з кніжкі „Земляные работы" Г. Д. Дубелир и В. М. Толстопятов. ГИЗ. 1927 г.

[2]) Прамежную опэрацыю—падняцьце глыбы я паасобку ня ўлічваю, бо гэта зрабіла-б формулы складанымі пры невялічкай іх удасканаленасьці. Падняцьце глебы ўваходзіць у $t_2$.

[3]) Вопыты над удасканаленьнем $t_1$ вытвараюцца Аддзелам Мэліарацыі Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна і будуць апублікаваны ў адным з наступных выпускаў.

У „Сводзе Норм“ няма лічбаў для другой опэрацыі паасобна [1]), але $t_1$ можам знайсьці па рабочай апэрацыі 112—120 для глеб груп 1—4 непасрэдна і шляхам вылічэньня для груп 5—11.

$T$ для груп 1—4 знаходзім непасрэдна па апэрацыі 112—124. Ведаючы $t_1$, і $T$, атрымоўваем:

$$t_2 = T - t_1$$

З прычыны таго, што каэфіцыэнт $\beta$ адносіцца толькі да чыстага працоўнага часу $t_2$ і ў норму працсілы (гл. стар 82 „Свода Норм“) уключан адпачынак і рабдабаўка ў агульным разьмеры 35%, то каэфіцыэнт $\beta$ трэба ўвадзіць не да $t_2$, а да

$$t^1{}_2 = t_2 - t_2 \frac{35}{100} = 0{,}65\ t_2.$$

Тады:

$$T = t_1 + 0{,}65\beta t_2 + 0{,}35 \cdot 0{,}65 t_2 \beta$$

дзе апошні складальнік уключаецца на адпачынак і рабдабаўку. З апошняга выражэньня атрымоўваем:

$$T = t_1 + 0{,}8775\beta t_2 \quad \ldots\ldots\ldots (13)$$

З формулы $\sqrt{l^2 + h^2} + h = 3$ пры $h$ вядомым атрымоўваем па аслабаненьні ад радыкалу і прывядзеньні падобных членаў:

$$l = \sqrt{9 - 6h} \quad \ldots\ldots\ldots (14),$$

а пры $l$ вядомым:

$$h = \frac{9 - l^2}{6} \quad \ldots\ldots\ldots (15).$$

Па формуле (14) знаходзім такое $l$ пры заданым $h$, а па формуле (15) такое $h$ пры заданым $l$, для якога $\beta = 1$. Такім чынам, формулы (14) і (15) даюць у агульным выпадку тое, што дае табліца №6 „Свода Норм“ для некалькіх прыватных выпадкаў. Калі адначасова даны $l$ і $h$, то больш усяго $\beta \neq 1$. У гэтым выпадку вылічаем $\beta$ па формуле (8) альбо (10) і ўводзім папраўкі па формуле (13).

**Прыклад.** Глеба групы $3a$ (па клясыфікацыі „Свода Норм“) выкідваецца з канавы разьмерамі: $b = 0{,}5$ мт., $h = 1{,}25$ мт., $m = 1:1$.

---

[1]) Адзначаем тут пажаданасьць мець нормы паасобку для $t_1$ і $t_2$.

Вызначыць каэфіцыэнт $\beta$ і ўвесьці папраўку на $t_2$. Па правілах, якія выкладзены на старонцы 20, вылічаем для дадзеных разьмераў канавы $l$ і $h$ і, нарэшце, $\beta$ па формуле:

$$\beta = \frac{\sqrt{l^2 + h^2} + h}{3} = 1{,}334$$

Для глебы групы 3*a* знаходзім у „Сводзе Норм" па рабочай опэрацыі 112—124—$^3/_1$ для меншае граніцы [1]) лічбу $0{,}74 = T$ нявыпр., а па рабочай апэрацыі 112—122—$^3/_1$ знаходзім лічбу $0{,}14 = t_1$. Цяпер вылічаем $t_2 = T - t_1 = 0{,}74 - 0{,}14 = 0{,}6$. Падстаўляючы цяпер значэньні $t_1$, $t_2$ і $\beta$ у формулу (13), атрымоўваем:

$$T \text{ выпр.} = 0{,}14 + 0{,}8775.1{,}334 \cdot 0{,}6 = 0{,}842.$$

Паглядзім зараз на колькі адхіляюцца нашы тэарэтычныя развважаньні ад дадзеных „Свода Норм". У табліцы № 6 „Свода Норм" дадзены такія значэньні $l$ і $h$, для якіх $\beta$ мяркуецца роўным адзінцы, г. зн., $l$ і $h$ табліцы № 6 павінны здавальняць формулу:

$$\sqrt{l^2 + h^2} + h = 3 \quad . \; . \; . \; . \; . \; . \; . \; . \; . \; . \quad (7)$$

Але, падстаўляючы ў левую частку формулы (7) $l$ і $h$ з табліц № 6, мы не заўсёды атрымоўваем у правай частцы лічбу 3, як гэта відаць з наступнай таблічкі:

| $h$ | $l$ | $\sqrt{h^2 + l^2} + h$ | $\sqrt{h^2 + l^2} + h - 3$ |
|---|---|---|---|
| 1.50 | 0,00 | 3.00 | ∓ 0,00 |
| 1,45 | 1.50 | 2,98 | — 0,02 |
| 1,40 | 1.00 | 3,12 | + 0,12 |
| 1,25 | 1.50 | 3,30 | + 0.30 |
| 1,10 | 2.00 | 3.38 | + 0,38 |
| 1,00 | 2.25 | 3,46 | + 0,46 |
| 0,80 | 2,50 | 3,42 | + 0,42 |
| 0,60 | 2,75 | 3.41 | + 0,40 |
| 0,00 | 3.00 | 3,00 | ∓ 0,00 |

[1]) Лічбу для меншае граніцы бярэм для прыкладу: З такім-жа посьпехам мы можам браць лічбу большае граніцы, альбо заключную паміж большай і меншай граніцамі.

Дапускаючы $h$ і $l$ табліцы № 6 „Свода Норм“ абсалютна дакладнымі, вылічым дапушчальнае адхіленьне, выходзячы з тых градацый, па якіх дадзены $h$ і $l$. Так, для $h = 1{,}4$ *мт* і $l = 1{,}0$ *мт*.

$$\triangle_{h_1} = h \text{ папяр.} - h \text{ дадз.} = 1{,}45 - 1{,}40 = 0{,}05 \text{ мт.}$$

$$\triangle_{l_1} = l \text{ дадз.} - l \text{ папяр.} = 1{,}00 - 50 = 0{,}50 \text{ мт.}$$

Магчымае адхіленьне:

$$\triangle_1 = \sqrt{\triangle_{h_1}^2 + \triangle_{l_1}^2} + \triangle_{h_1} = \sqrt{0{,}05^2 + 0{,}5^2} + 0{,}05 = 0{,}55 \text{ мт.}$$

$$\triangle_{h_2} = h\text{дазд.} - h\text{наст.} = 0{,}15 \text{ мт.}$$

$$\triangle_{l_2} = l\text{наст.} - l\text{дадз.} = 1{,}5 - 1{,}0 = 0{,}5 \text{ мт.}$$

$$\triangle_2 = \sqrt{\triangle_{h_2}^2 + \triangle l_2^2} + \triangle_{h_2} = 0{,}67 \text{ мт.}$$

Чакаемае адхіленьне:

$$\triangle = \frac{\triangle_1 + \triangle_2}{2} = \frac{0{,}55 + 0{,}67}{2} = 0{,}61 \text{ мт.,}$$

а па форме (7) атрымана 0,12. Для $h = 1{,}0$ *мт.* і $l = 2{,}25$ *мт.*, для якіх атрымана найбольшае адхіленьне,

$$\triangle = 0{,}369, \ \triangle_2 = 0{,}52 \text{ і } \triangle = \frac{\triangle_1 + \triangle_2}{2} = 0{,}445 \text{ мт.,}$$

а па формуле (7)—0,46, г. зн., што адхіленьне паміж тэарэтычнымі выкладкамі і дадзенымі табл. № 6 „Свода Норм“ вельмі невялічкія.

## II. Перакідваньне глебы ўверх па пакату.

Калі глеба перакідваецца ўверх па пакату з $A$ ў $A_1$, з $A_1$ ў $A_2$ (гл. рыс. 7), то ў „Сводзе Норм“ адлегласьць $L$, для




Рыс. 7.

